камісыі дадзены шырокіе поунамоцтвы і можна спадзевацца, што у хуткім часе пачнецца масавое вызваленьне інтэрнаваных асоб.

**„Плебісцыт“.** Як нам паведамляюць, так званая камісыя па апрацаваньні конституцыі пры польскім сойму, пры удзеле гэнэральнага камісара „усходніх зямель“ п. Асмалоускага, прадстаунікау „народных рад“ Горадзеншчыны, Віленшчыны і Новагрудчыны, „Народных рад беларускіх зямель, і „Польскага выканаучага камітэту у Расіі“, разглядала пытаньне аб выбарах у асобае прадстауніцтво, якое займецца рашэньнем пытаньня аб долі „усходніх зямель“. Камісыя пастанавіла, *што рашэньне па такому пытаньню можа быць прынято толькі у форме рэзалюцыі.*

**Організацыя студэнтау.** Першы сход студэнтау-беларусау адбыуся 14 лістапада. Заснована беларуская Студэнцная організацыя—„Беларускі Студэнцкі Саюз“. Разгледжан і прынят статут. Выбрано часовае прауленьне для легалізацыі саюзу.

**На почце і тэлеграфе** з кожным днем праца пашыраецца. Да гэтага часу ужо адноулена тэлеграфная зьвязь Менску са Слуцкам, Ігуменам і Койдановам. Гэтымі днямі пачнецца прыем прыватных тэлеграм.

З розных месц Польшчы у Менск прыходзіць шмат тэлеграмау, але з Менску пакуль што не адпрауляюцца.

У хуткім часе маюць так-сама організаваць правільную адпрауку і дастауку пасылак.

**На біржы** апошнімі днямі пачалося ажыуленьне з прычын заграцічнай валюты, якая паявілася тут. Цэны на яе вельмі высокіе. За даляр плацяць 35—40 марак, за франк—8—9 марак. Троху падаражэлі польскіе маркі, 100 „царскіх“ рублеу—110-113 марак. Затое велмі палі „думкі“. Яшчэ тры дні таму назад за 1000 руб. плацілі 410-415 марак, цяпер плацяць толькі 380-385 марак. Падзеньне „думак“ на біржы тлумачыцца падзеньнем Юдэніча. „керанкі“ і „савецкіе“ па ранейшаму 10—11 кап. за рубель.

**Сахарын** учора і трэцьцяга дня падаражэу ад 1050 р. за кіло да 1350 р. Як кажуць, сахарын у агрмадным ліку скупліваецца спэкулянтамі для вывоза у Расію.

**Падмога правінцыі.** У хуткім часе адбудзецца у Вільні конфэрэнцыя прадстаунікоу районых камітэтау падмогі пацярпеушым ад вайны жыдом усей Беларусі дзеля апрацаваньня пляну дзеяльнасьці у кірунку падмогі пацярпеушай правінцыі нашага краю. Плян працы ужо намечаны і абхоплівае сацыяльна-эконамічные і культурные дзеі.

Цяпер абгаварываецца з беларускімі коопэратывамі справа аб загатоуцы у вялікім ліку ботау для правінцыі.

**Польская урадовая каса** па разным грашавым опэрацыям афіцыяльна адчыняецца 20-га лістапада.

Разам з гэтым можна чакаць спыненьня грашовай спэкуляцыі.

**Прауленьне беларускай чыгункі,** якая пераехала з Бярэсьце, пачало у Менску сваю актыуную працу ад учарашняго дня, 15-га лістапада.

**З арэштоваваных** у саюзе цэнтр. рабоч. коопэратывау да гэтага часу ня вызвалены 12 чалавек. З іх некаторые пераведзены у турму.

**Ад „рускага“** камітэту адышоу мясцовы камітэт злучанай радыкальна-дэмократычнай рускай партыі.

**Ад злучанай радыкальнай дэмократычнай группы** у сьпісак кандыдатау, пададзены галоуному камітэту па выбарах, першымі уходзяць Метлін, Самойло, Каторнік, Шырокау і інш. (усяго 17 асоб).



**Саюз польскіх коопэратывау** уладжываецца у хуткім часе.

На чале справы стане землялаласьнік Рытвінскі, катораму на гэта адпускаецца 2,000,000 рублеу авансам.

**У Цэнтрабелсаюзе** 4 тыдні, як не адтрымоуваецца ні воднаго пуду солі з выпісаных 20-ці вагонау.

Дзеля гэтага няма тавараабмена з вескай.

**Кіслая капуста** 4,000 пуд. прыгатовіу цэнтр. саюз рабочых коопэратывау дзеле раздачы паміж сваімі 12-ю крамамі.

**Прачкарня** цэнтр саюзу рабочых коопэратывау (па Замковай вул.) павялічывае сваю працу. Прыем заказау і не ад пайшчыкау па тойжа самай цане.

**Концэртнае турнэ** беларускага хору Тэраускага мае зноу адбыцца у Слуцку у хуткім часе.

## Ліст у рэдакцыю.

**Шаноуны пане Рэдактару!**

Вельмі прашу Вас, пане Рэдактар, надрукаваць у бліжайшым нумэры Вашае паважанае газэты вось што:

Нейкі пан Іваноускі (музыка, школа музыкальная на рагу Скобелеускай і Падгорнай) пазваляе сабе рассеіваць весткі, што Вацлау Іваноускі, сын Леонарда, быу камісарам у бальшавікоу.

Вось, пратэстуючы проціу гэткай брэхні, адзначаю, што муж мой, Вацлау Іваноускі, сын земяніна з Лідскага павету, доктар тэхнічных навук, працавау у бальшавікоу у Аддзеле Прасьветы усэкцыі выдавецкай, у Вучыцяльскім Інстытуце як прафэсар, камісарам жа ніколі ня быу, вядомы ен тут у шырэйшых кругах грамадзянства і ніяк не зразумею мэты пана Х. Іваноускага кіданьня падобных нягодных абвіненьняу на чалавека, які бараніцца ня можа, бо дагэтуль сядзіць у бальшавіцкім вастрозе у Смаленску.

**Ядв. Іваноуская.**

14 лістапада 1919

Менск Беларускі.

*Рэдактар-выдавец*

*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Друкарня Інвалідау, Менск.